БЕЛАРУСКІ
# ЛЕТАПІС
Культурна-Грамадзкі і Літаратурны Месячнік

№ 5 КРАСАВІК 1937 г. ГОД II



Міхал Забэйда-Суміцкі.

# Да чытачоў.

ПРЫСЫЛАЙЦЕ СКЛАДКІ НА „БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС“, ВЯРБУЙЦЕ НОВЫХ ПАДПІШЧЫКАЎ, ПІШЭЦЕ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ. ХТО МАЕ ДОЎГ, НЯХАЙ ПРЫСЬПЯШЧЫЦЬ ВЫСЫЛКУ, КАБ НЕ БЫЛО ЗАТРЫМАНЬНЯ Ў ВЫДАВАНЬНІ ЧАСАПІСУ.

ВЫСЫЛКА СКЛАДАК ПЕРАКАЗАМ РАЗРАХУНКОВЫМ НІЧОГА НЕ КАШТУЕ.

---

## ЗЬМЕСТ:



---


**СКЛАДКІ:** 3 зл. 60 гр. на год; 1 зл. 80 гр. на паўгода; асобны нумар 40 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня, Каралеўская вуліца 3-8.
Конто: Rozrachunek 91.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

№ 5 Красавік 1937 Год II

МАКСІМ ТАНК.

## Журавінавы цьвет.

*(Працяг).*

Да сонца цягнецца вузкі загон.
Залёгшы у хамут, памалу конь
на дальны перавал валочыць плуг.
— Пайшоў!.. но!.. проста!..
но жывей!.. гняды!..
І топяцца ў baрознаў чорны пух
глыбокія
лапцюжныя
сьляды...
Часамі камень - патайнік рване, —
не перапрэўшы дзёран ў баразьне
пад дышаль згурбіцца...
Нарогу край
блісьнець і зноў затопіцца ў ральлю.
Тужэй пабоцні; хіліцца ратай
над плугам, памагаючы каню.

А над зямлёй вясняны жоўты чад
і цёплы вецер. Грамада дзяўчат
ідзе пamежкам. Звоняць галасы
расьцьвіўшай моладасьцю; шум і сьмех, —
як пацяркі караляў ці расы,
і песьні—думы саламяных стрэх —
калышуць ў дзіўных пералівах дзень.
Б'юць праньнікі, як крыльля па вадзе,
ўблытаўшыся у вербалоз, чарот.
І беляцца на беразе ракі,
дзе сьцелюцца трыпушнік і асот,
палотны зрэбныя і ручнікі.

— Васіль!..
хтось гулка кліча з грамады.
І рэха звоніць сьмехам маладым...
— Но!.. кратай...
проста...
баразной пайшоў!..—

Арэ Васіль, як быццам і ня чуў...
Мо' ўспомніў чыесь вочы — сіні шоўк,
мо' нават і ўспамінаў не крануў,—
плуг толькі вырваўся, палез ў агрэх.
— Назад! .. —
Конь затрымаўся на гарэ
і цяжка дыхаў. Сьвежую траву
успомніў і заржаў, бы затужыў.
Худую выцягнуўшы галаву,
грыз высахшы быльнік з мяжы...

Ад хат,
палос вузкіх
і трысьнікоў
густых, аж да асадніцкіх двароў
усе Раіну ведалі з сяла.
За вёскай, водаль, ў хаце канцавой,
як ружа дзікая, яна цьвіла,
чаруючы, палонючы красой.
Умела песьні сонечна пяяць,
на полі першая была жняя
і кросны ткала тонка, як паркаль,
і васьмярні узорных ручнікоў...
Не дарма спадабаў яе капраль,
улан, асаднік з блізкіх хутароў...

Глядзіць на плуг апёршыся Васіль
туды, дзе вецер разьлівае сінь,
калыша лес зялёнай асакі...
Б'е праньнікам Раіна палатно.
Крычаць спалоханыя кулікі.
Адна рака сьпіць серабраным сном
пад звонкі хор дзявочых галасоў.
Васіль успомніў хмару каласоў,
жніва і сьмех Раініных вачэй,
сьмех васількоўы на яго „люблю“...
— Но... но!...—
Сяўцы ўзьняліся і хутчэй
спусьціліся
на сьвежую
ральлю.

2.

Як толькі у хлявы загналі дзень,
улан у хаце Баўтрука сядзеў,
падпёршы п'яны цэбар - галаву.
Аб чым ён толькі там не гаварыў!
І пра паход з Баторым на Маскву,
пра Чэнстахову, Запарожжа, Крым,
і ў кожнай бітве ён героем быў:
скідаў уланскай вострай шашкай лбы.

Пры гэтым горда грудзі выпінаў,
як быццам станавіўся на парад,
і відучы, здаецца расьцьвітаў,
як сонца, на грудзёх мэдаляў рад.

Баўтрук, як быццам і ня чуў яго,
ўсё папраўляў у сьветачы агонь
і толькі хітра з боку паглядаў.
Калі-ж успомніў пра дачку улан,
пра хлеб, ў якім ня тлее лебяда,
што ён жыве без мазалёў, як пан,
і лепш-бы пэўна яшчэ жыў калі-б...
Стары парупіўся, гасьцю даліў
і, выпіўшы, пытацца сам пачаў
пра ураджай, мэдалі, ярыну...
Улан асалавеўшы маляваў
далей пяром Сянкевіча вайну.

Раіна слухае.
Здаецца ёй,
што бацька петлямі ўсё далей
вядзе кудысь суседа у кусты,
каб той дарогі простай не знайшоў;
ды і улан, мо' п'яны, не аб тым,
аб чым задумаў, гутарку павёў.
Глядзіць на госьця: сьмелы, стройны сам,
дзе з ім зраўняцца нашым дзяцюкам,
як захаду да сонечнага дня.
Скакаць на вёсцы, мала хто так мог;
як выйдзе—шпоры іскрацца, зьвіняць,
а гляне — пацямнее у вачох...

— Ды што-ж, стары, ўжо мне пара ісьці.
У цябе язык хоць лапці ім пляці,
а госьця ты і не спытаў, чаго
ў адведзіны з гарэлкаю прыйшоў...
Пасаг?.. У мяне ёй хопіць усяго!
Як паню, убяру яе у шоўк.
Мець будзе хлеб і соль, і малако,
забудзе вашу мову мужыкоў...
Раіна выйшла...
У прыўне на кубле
лягла. Закраўся ў сэрца страх глухі,
падплыў сьлязамі.
Поўнач на сяле
прапелі галасіста пятухі.

Баўтрук прамову слухаў да канца.
А посьле, сам ў адказе, малайца
і хутар, і сабак пачаў хваліць.
Што ён ў аколіцы дзяцюк адзін,
і розуму Бог даў і шмат зямлі...

Улан расьцьвіў, як ў масьленіцу блін.
—Ды вось—цягнуўдалей Баўтрук стары--
дзяўчыну лепей пашукаць ў двары;
за гэткага з пад чэрапічных стрэх
гатова паляцець сініц хоць сто.
А нам мякіньнікам і лезьці грэх
у панскія харомы ці за стол...

Улан устаў бялей як палатно.
— Мо'дзе спаткаемся, стары, мы зноў—
глядзі, каб не зьліняла барада!..
Схапіў бутэльку...
Эх, паранясло,
гранатай ў бабскі качарэжнік даў,
аж пырснула зьвінячым роем шкло.
— Э-эх, сусед!
шкада мазоліць рук!—
крактаў вылазючы з пад тапчана Баўтрук,
схаваўшы галаву—сівы качан.
—Багаты чым, тым і дарым гасьцей...
Калі што і не так, пан, выбачай!..
Улан паплыў, як хмара, да дзьвярэй...

—А ты ня плач, яшчэ няма чаго!
Забудзеш ўсё праз месяц ці праз год—
стары Баўтрук Раіну пацяшаў,—
ня свой, чужы, нам гэта чалавек,
цябе-б не разумеў, не шанаваў.
Жыцьцё зусім яму не ў галаве...
Няхай па добраму пакіне нас,
і без яго мэдаляў, без лампас
мы пражывём па праўдзе, як жылі.
Яшчэ за рана хліпаць паначы!..
Ці можа скрыўдзіў ён цябе калі?..
Што-ж мне ты не адкажаш і маўчыш?

І раптам зразумеў Баўтрук стары.
Вясной, на вечарыне да зары
улан з Раінай усю ноч гуляў.
Адвозіў посьле...
Да гумна сьляды —
Баўтрук успомніў—мокрая ральля
адбіла, сам яшчэ гадаў тады:
Мо'—хто у сене п'яны начаваў...
Стары сярмягу з вешака сарваў,
накінуў хутка, пералез праз плот,
прыслухаўся: шум ветру... лазьнякоў...
І, гнаявыя вілы на плячо
ускінуўшы, ў бок хутароў пайшоў...

З балот крынічыў вецер сухавей,
з пад сініх зор,
па стрэхах,
па траве,
вішнёвую ўздымаючы мяцель;
паводкай шумна-звонючай сплываў
і—маладасьць садоў расьцьвіўшых—бель
гарачым вірам, подыхам зьмятаў.
Пад дзень і вечар змоўк і пацямнеў.
Спакойна неба дыхала ў паўсьне.
Пасыпаў дождж, як пацеркі, густы,
па сьцежках зазьвінеў і між трысьця.
Набраклі нівы, стрэхі, і кусты,
зямля дап'яна сокамі жыцьця.

(Далей будзе).

Вільня, 5.IV. 1937 г.

---

# Міхась Васілёк.

Сьвітае.

„Залатой разорай“ будзіцца ўсход над далёкімі дарогамі, над „вузкімі, як доля“, палосамі, над шэрымі стрэхамі вясковых хат. Быццам „шум баравы“, плыве над гэтымі хатамі і нівамі песьня, — часамі сумная і шэрая, як асеньняе неба, часамі бурная і кіпучая, як жыцьцё нашага народу.



Міхась -Васілёк.

Песьні Міхася Васілька, вырасшыя з народнай творчасьці, няраз ішлі і ідуць у народ, які ў іх пералівах адчуў блізкае сваё, роднае яго сэрцу, яго імкненьням, які таксама, як і яго песьняр, хоча і мае „шмат аб чым гаварыць, выліць душу сваю што запалам гарыць“..

Ня гледзячы на пэўныя недахопы ідэолёгічна - мастацкага характару, М. Васілёк ужо з першымі крокамі („Шум баравы“) ня толькі як глыбокі лірык, але і як паэт-адраджэнец становіцца на перадавыя пазыцыі нашай літаратуры. У гэтым часе, а пазьней тым больш, ён пытліва затрымліваецца над сацыяльнай старaной жыцьця. Дзякуючы сваей глыбокай інтуіцыі, ён бачыць тыя супярэчнасьці, якія

ў ім крыюцца і бурна рэагуе, заклікаючы „пралажыць вокны сталёвыя к сонцу". Паэт імкнецца да мастацкай праўды шляхам аналізу рэальнага жыцьця, як да крыніцы, з якой выцякае ўся творчасьць.

М. Васілёк — сын працоўнай вёскі, з якой цесна зьвязаны не толькі творчасьцю але і штодзенным жыцьцём. І там, дзе ён прысягае.—

... „Вслай шчасьцем сьвятым
сваім сэрцам, душой прысягаю,
што, як просінь нябёс, совца блеск залаты,
Беларусь сваю маці кахаю",

бачым працоўнага беларуса ў руках з сяўнёй, які, дзесь сярод поля, падставіўшы пад вецер шырокія грудзі, прысягае свайму народу, сваей матцы — Беларусі. Тут чуеш ня толькі бязмежную любоў да сваей старонкі, людзей, мовы, — тут чуеш волю чалавека, цьвёрдую, як сталь нарогу, якім народ арэ цяжкія зьлітыя потам скібы роднай зямлі. Яму ня раз здаецца, гэтаму волату, „патрос бы сьвет рукой мазольнай" ці:

... „Сам з тэй песьняй моцы ўзаўюся,
крыльля волі распраўлю свае,
пакажу ей прастор Беларусі,
хай ляціць, цешыць душу, пяе"!..

Але ў любві М. Васілька да сваей бацькаўшчыны мы ня знойдзем сьляпога пафосу. Паэт любіць сваю старонку так, як любіць яе беларус-земляроб, батрак, жняя.

З крыштальных крыніц народнай творчасьці, з сялянскага жыцьця бярэ М. Васілёк сваю тэматыку, і яна прамаўляе да нас сваім срогім рэалізмам. Калі ў „Шуме баравым" дае нам толькі штрыхі, мяйсцамі высока мастацкія, дык сяньня ён перад намі разгортвае шырокія палотны, накіданыя поўнай рукой мастака, поўныя дынамічнага зьместу. Калі першыя часы яго творчасьці носяць характар пэўнай плякатнасьці, дык сяньня ў яго ідэя знаходзіць свой мастацкі вобраз.

Трэба было шмат мець сілы волі, каб пранясьці праз жыцьцё чыстую веру ў лепшае заўтра, пэўнасьць, якая чуецца на працягу ледзь не ўсей літаратурнай творчасьці Васілька. Жыцьцё паэта было цесна зьвязана з жыцьцём лепшых сыноў народу, і на долю іх так і паэта няраз клаліся панурыя цені, у вочы часта заглядаў голад; няраз дыхала сьцюжа пад рызманы сялянскай сярмягі.

Праз гады векавой няволі мазольнымі рукамі народ вынес свой найвялікшы скарб — сваю мову, песьню, і паэт, выйшаўшы з народных радоў, не заламаўся; праз сьцюжу, якая вісела над полем, дратаваным „і ўздоўж і папярок", вынес кіпучыя шчырым пачуцьцём свае песьні. Трэба было прайсьці шмат цярністых дарог, каб пранясьці, як паэт „з сялянскіх ніў", жывыя адгалосы"... І ён іх пранёс...

Ці не зьяўляецца гэта найлепшым адказам усім тым „ценям", якія „з чорных сутарэньняў душу аплёўвалі ня раз"?...

Ці не зьяўляецца гэта найлепшым адказам і тым, якія, ўбачыўшы ў М. Васільку песьняра-адраджэнца, казалі кінуць вершы і ісьці растрасаць гной?..

Часы ад „Шуму баравога" да 1936 году, магчыма дзякуючы злажыўшымся абставінам, не зьяўляюцца вельмі творчымі. Але калі мы прыгледзімся творам з часоў „Шуму баравога" і да апошніх, дык

мо' убачым, што гэты час быў часам яго ідэолёгічнага росту, колярытнасьці, — часам росту яго вобразнасьці і мастацтва. Паэт за гэты час зрабіў вялікі крок наперад. Іначай ён сяньня глядзіць на жыцьцё, не схіляе, як перш, тужліва галавы над магіламі блізкіх... Простымі параўнаньнямі, мэтафарамі з сялянскага жыцьця, з жыцьця вёскі шмат узбагаціўся стыль М. Васілька. Там, дзе ён малюе прыроду ў „шуме баравым", можна было на пальцах палічыць вобразы, накіданыя сьмела і мастацка як:

... „цяплей ўжо нейк сонейка
сьвятлом палошча гай,
цалуе твар сасоньніка".

сяньня мы ледзь не на кожным кроку спатыкаемся з багатай формай і высокім мастацтвам.

... „Падкраўшыся разорамі,
з палёў, дзе была схована,
сыпнула ночка зорамі,
як з рэшата вясковага...

. . . . . . . . . . . . . ,

... „І крутнуць яшчэ мне сонца калаўрот
так хочацца рукою мязалістай"...

Прад намі праходзяць жывыя вобразы дарог, родных ніваў, зрэзаных межамі, палосамі, якія няраз засяваў паэт з верай, што „з засеву новага будзе іншае жніва", а далёка дзесь у калосьсі зьвініць песьня, якая „ўскалыхнула душу жалем, прад ей жытцо на серп схілілася"...

У лірыцы М. Васілька часамі, як залатой восеньню, веець сумам, але сум гэты ў яго мінае так, як непагода, як ноч перад усходам сонца; часам абрываецца стальнымі акордамі, з якіх тчэцца жыцьцё, пералітае ў песьні, парываючы за сабой у бязьмежную даль.

Зразумела, што сучаснасьць нашае вёскі не дае, як і ўсім нашым паэтам, так і М. Васільку, шырака разгарнуць свае творчыя крыльлі, каб падняцца да вяршынаў мастацтва, каб усебакова ахапіць творчасьцю сяньняшняе жыцьцё, выліць у песьнях зару новых дзён.

Але гэтыя творчыя вяршыны мы, маладняк, мусім здабыць, толькі трэба штурмаваць бязупынна.

М. ТАНК.

Вясна, 1936 г.



МІХАСЬ ВАСІЛЁК.

# Ходзіць гора.

Чорнай курыцай на стрэхі села ноч
І клюе, клюе разсыпаныя зоры.
Без змаганьня ты мне шчасьця не прароч, —
Гэта шчасьце — сьлёзы з выплаканых воч...
Нашу радасьць затуліла крылом гора.

Сарамліва парадзіла зара дзень,
Ў небе белыя пялюшкі сушыць сонца.
Па вяршынах сініх лесу, па вадзе
Медзь расплёскаў шалаўлівы маладзень,
Сыпнуў сьмехам пунсавейным па старонцы.

Папаўзе вужом па полі сьлізкі плуг,
Пабрыдзе за ім засмоктаны ратай...
— Чаго хмурыш свае вочы, мілы друг?
І пачуеш: — Ня турбуйся, ня пытай!...

— Ня пытай, — у сэрцы прыкра тлее золь —
Сваё шчасьце мы ў муках толькі родзім...
Шэпча вецер з кучаравай дзеразой,
Што, падплёўшы лапці цьвілаю лазой,
Ходзіць гора, блудзіць голад у народзе.

На мурзатым небе пасмамі, як сьлед,
Разаслала залацісты сонца лён.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1937 г.

---

А. ІВЭРС.

# Веснавыя думы.

Над палямі вецер,
Над палямі звонкі, —
Зашумела вецьце
Меднае сасонкі.

Веснавыя думы —
Каласістым роем
У вясеньнім сонцы
З раньняю зарою..

Там, дзе былі горы,
Горы сьнегавыя —
Там вада разорай
Пеніцца і вые.

А над цёмным гаем —
Сьмелыя акорды:
Пацякла ручаем
Маладая гордасьць...

Але тыя думы
Не даюць пакою
У вясеньнім шуме
З раньняю зарою..

Прытаілась вёска
Ў полі паміж гораў...
Сум я свой расплёскаў
У сонечным прасторы...

Сонца лье праменьні,
Звоніць па палетках,
А зярнят ні жмені —
Што пажну улетку?...

З вузенькіх палеткаў
Вецер б'е па твары,
А над ціхай вёскай —
Сонечныя мары...

# „Загінуўшая на гістарычных шляхох вялікая балтыцкая дзяржава“.

У расейскага сатырыка М. Е. Салтыкова ёсьць шырака ведамае апавяданьне пад назовам „История одного города“, дзе пісьменьнік гэткімі словамі характарызуе тамтэйшага граданачальніка: „Перахват-Залихватский, Архистратиг Стратилатович, майор. В'ехал в город Глупов на белом коне, сжег гимназию, упразднил науки“.

Ведама, „упразднить“ навукі мог толькі глупаўскі граданачальнік — асоба выдуманая. Але-ж вось цяпер, праз семдзесят гадоў, знайшоўся ў Латвіі жывы, рэальна існуючы чалавек — кандыдат гісторыі К. Сталжан, каторы, мусіць, паверыў у існаваньне фантастычнага Глупава і ягонага граданачальніка ды пазавідаваў славе апошняга.

Сталжан прачытаў нядаўна ў Рызе — у „Таварыстве дасьледчыкаў латыскае старасьветчыны“ — рэфэрат на тэму *аб паходжаньні беларусаў*. Вось жа гэта відаць, лішне йшчэ малады „навабранец“ гісторыі, які толькі што скончыў латвійскі унівэрсытэт, ня мог, ведама, „упразднить“ навукі, але за тое ён .. *„упразднил“ славянскае паходжаньне беларусаў*.

Вось зьмест гэтага рэфэрату — паводле латыскае газэты „Яўнакас Зінас“ (№ 45 з 25.II 1937):

„Філолёгічная навука сьведчыць, што з жывых арыйскіх моў балтыцкія народы найчысьцей захавалі гукі і словы арыйскай першай мовы. З гэтага вынікае, што гэтыя народы параўнаўча мала прыймалі ўдзел у вайсковых і авантурных набегах, а, з другога боку, што гэтыя народы ў дагістарычныя часы былі параўнаўча магутныя і моцныя народы, якія зясялялі шырокія абшары. Прыналежнасьць да балтыйцаў, плямён старапрусаў, ятвягаў і галіндаў наагул вядома, але менш знаёмы дагістарычныя часы ў сучасных славянскіх землях. У свой чарод, *належачыя балтыйскім плямёнам старажытныя рэчы, знаходзячыяся ў беларускім, Пскоўскім і інш. расейскіх музэях*, сьведчаць, што яны ў дагістарычныя часы жылі шмат далей на поўдзень і ўсход — у цяперашніх славянскіх землях. Літоўскі вучоны праф. Гука, дасьледуючы назовы мяйсцовасьцяў, сцьвярджае, што балтыйцы некалі жылі таксама ў Смаленскай, Менскай і Пінскай акругах,— так сказаць, у Беларусі. За 1000 гадоў гэга былі яшчэ запраўдныя балтыйскія землі з яскрава адчуванаю этнаграфічнаю мяжою, некаторыя прыметы якой відаць яшчэ цяпер. Калі-б гістарычны лёс для балтыйскіх народаў быў больш памысны і іхняя адпорнасьць больш моцная, дык на заселеных імі за 1000 гадоў землях *цяпер было-б ня менш 20 мільёнаў жыхароў — магутная вялікая дзяржава*, якая ахоплівала-б Старую Прусію, Літву, Латвію і шырокія, цяперашнія славянскія абшары на поўначы, усходзе і паўдні. Некаторыя матэрыялы сьведчаць, што балтыйцы калісь жылі таксама ў Ноўгародзкай, Маскоўскай і Цьверскай акругах; у басэйнах Дняпра і Бярэзіны іхнія сялібы не выклікаюць сумліву. А. Качубінскі ў сваіх творах аб дагістарычнай Літве ў 1897 г. паказвае, што *Бярэзіна выцякае* з возера „Пэлік“. Гэта латыскае слова. І аўтар падкрэсьлівае запраўды дзіўную рэч, што *славянскія рэкі выцякаюць з неславянскага возера!*

„Балтыйцы былі калісь гаспадарамі на Пінскіх балотах і на ўсход у кірунку Дняпра. У дагістарычныя часы ім належалі таксама акругі Горадні. Іх тэрыторыя на паўдні — паўночны басэйн Прыпяці, на ўсходзе — басэйн Бярэзіны, на захадзе — вярхоўе Наровы. Славянскі назоў „дрыгвічы“ магчыма выходзіць ад слова „drẽgns“, бо гэткаю была іх зямля — балацістая, нізкая. Але што-ж сталася з гэтымі плямёнамі ў акругах цяперашняе Беларусі? Тут дзьве магчымасьці: або хваля славян прымусіла іх перасяліцца ў паўночна-заходнім кірунку, або яны засталіся на мяйсцох свайго жыцьця, дзе на працягу стагодзьдзяў ператварыліся ў славян. Жывы помнік гэтага працэсу — *сучасныя беларусы*.

„З гэтага пункту гледжаньня *беларусы ў гістарычнай перспэктыве зьяўляюцца абрусельымі балтыйцамі*.

„Аб гэтай праблеме прачытаў рэфэтат у Т-ве дасьледчыкаў Латвійскай Старыны канд. гісторыі К. Сталжан. У выніку рэфэрэнт сцьвердзіў, што сучасная беларуская тэрыторыя ў старыну, а таксама і ў пазьнейшыя часы была заселена нашымі продкамі, якія ў масе засталіся таксама і на мяйсцох дэнацыяналізаванымі“.

Бязумоўна, ня было-б ніякага сэнсу зварачаць увагу на гэты рэфэрат, поўны відавочных недарэчнасьцяў, калі-б справа абмежылася толькі выслуханьнем яго нейкім дзесяткам бязвусых яшчэ калегаў дакладчыка. Разглядаць яго, як навуковы твор, абсалютна немагчыма. Дый у нармальных варунках ацэнка яго істоты мусіла-б быць справай перад усім латвійскіх-жа прафэсароў, узгадаваўшых гэткага „знаўцу“ гісторыі. Але зьмест рэфэрату, як бачым падхапіла і падрабязна пераказала латыская *палітычная* прэса, а ведама ня толькі ў Латвіі, але і ў нас, што ў Латвійскай рэспубліцы існуе „старарэжымная“ *папярэдняя цэнзура прэсы*, і ніводзін радок друку ня можа пабачыць сьвету без папярэдняга перагляду і згоды латвійскага міністэрства ўнутраных спраў. У такіх абставінах робіцца ясным, што „амбіцыі“ канкурэнта глупаўскага граданачальніка падтрымліваюцца вельмі горача і ўрадавымі чыньнікамі, якія, як бачым, прызналі думкі рэфэрэнта добрымі і вартымі пашыраньня. Значыць, не аднаму Сталжану хочацца пераканаць шырокія колы латвійскага грамадзянства ў тым, што нібы то беларусы ня толькі ў Латвіі, але і ў Польшчы ды ў Саветах ёсьць „балтыйцы“, чытай: „латышы“... Вось з гэтае прычыны і нельга прайсьці моўчкі міма рэфэрату Сталжана, ня гледзячы на яго недарэчнасьць.

Стацьця Яўнакас Зінас“ мае загаловак: „*Загінуўшая на гістарычных шляхох вялікая балтыцкая дзяржава*“. Загаловак гэты — у лучнасьці з нашымі інфармацыямі з іншых крыніцаў — дае некаторыя падставы дзеля дагадак аб тым, хто-ж зацікаўлены ў пусканьні ў масы „рэвэляцыяў“ Сталжана і — чаму?

Прапагатары, ці мо правільней натхніцелі сталжанаўскіх „рэвэляцыяў“ гэткім спосабам падгатаўляюць грунт дзеля захвату і дэнацыяналізацыі беларускае тэрыторыі. Але-ж маленячкая Латвія ня можа хіба нават лятуцець аб захапленьні сваімі слабенькімі сіламі беларускіх зямель, якія сягоньня займаюць Польшча і Саветы. Дык трэба думаць, што за плячыма Латвіі мусіць хавацца нехта іншы — той, хто пачувае сябе дастатачна сільным дзеля захватаў чужых тэрыторыяў — хоць бы і рукамі ці пад фірмай Латышоў.

Хто-ж ён? — Адказ на гэтае пытаньне дае — пэўне-ж, не фальшаваная! — *гісторыя*.

Больш за 700 гадоў таму назад нямецкімі рацарамі — „крыжакамі“ — была кінена думка аб неабходнасьці пашыраць нямецкія гаспадарчыя і палітычныя ўплывы на Ўсход. Думка гэтая пачала тады-ж зьдзейсьняцца — у першы чарод у адносінах да латышоў, на зямлі каторых немцы ў 1201 годзе заклалі цяперашнюю сталіцу Латвіі — Рыгу. Рыга сталася базай, з якой у працягу даўгіх гадоў вялася рэалізацыя нямецкага лёзунгу „Дранг нах Остэн“ („Марш на Ўсход“!). Гэты лёзунг, хоць істота яго заўсёды была тая самая, у розных часох зьмяняў толькі формы сваей рэалізацыі. У найнавейшыя часы нямецкі дыктатар Гітлер адкрыта абвясьціў, што Нямеччына, каб жыць і разьвівацца, мусіць пашырыць сваё ўладарства на Ўсход. Але-ж, дзеля гэтага трэба Нямеччыне знайсьці туды нейкі просты, нікім не баронены шлях. Праз Польшчу, якая мае сваю сільную армію, не пераскочыш. Дык ці не праз Латвію надумалася гітлероўская Нямеччына распачаць свой „Дранг нах Остэн“? І ці ня з гэтай мэтай яна стараецца будзіць у латыскіх масах жаль па „страчаннай на гістарычных шляхох“ легендарнай „вялікай балтыйскай бацькаўшчыне“ — ад Рыгі да Смаленску і ад Валку да Пінску?

Ведама, адкрыта *падкінуць* Латвіі ідэю „звароту ўтрачаных земляў“ у голым выглядзе было-б непалітычна: гэта-ж пярэчыла-б „добрасуседзкім“ адносінам і Латвіі, і Нямеччыны — з Польшчай і Саветамі. Значыць, прыходзіцца падаць яе шырокаму грамадзянству ў „гістарычнай вопратцы“...

Да нас ужо даўно даходзілі весткі аб тым, што гэткая акцыя ўвесь час падгатаўлялася „келейна“ — у некаторых студэнцкіх арганізацыях. Характэрна, што рабілася гэта з ведама адміністрацыі латвійскага унівэрсытэту... Але толькі цяпер, відаць, насьпеў час перайсьці да шырокае публічнае дзеяльнасьці.

Ці латыскі народ прыме гэты „данайскі дар“, які можа ўцягнуць Латвію ў небясьпечную палітычную авантуру? — З шчырым спогадам адносячыся да латыскага народу, мы бы яму гэтага не пажадалі.

*Л. Н.*

---

## НІНА ТАРАС.

* * *

*(Урывак).*

Ой у полі, ой у полі
травы зелянелі,
аб цяжкой дзявочай долі
ветры песьню пелі.

Ой згіналі, ой згіналі
сосны стан свой тонкі,
асыпаўся жаль сьлязамі
каласіста, звонка.

Там далёка над магілай
за сялом, за вёскай,
пахілілась сіратліва
ды на крыж бярозка.

Доўга думала Марыся,
галаву схіліла,
горка сьлёзы паліліся
на пясок, магілу.

Асыпаўся жаль сьлязамі,
вецер плакаў звонка.
Ой згіналі, ой згіналі
сосны стан свой тонкі.

---

# Асьвета і хатняе навучаньне.

Тысячалецьцямі жылі народы бяз кніжнай асьветы, бяз пісанага і друкаванага слова. Тысячалецьцямі тварылі і грамадзілі нашыя продкі ўсе свае гаспадарскія і культурныя здабыткі і веду і перадавалі іх наступным пакаленьням вусна. Толькі некаторыя галіны народнага мастацтва атрымлівалі больш сталую форму: на палотнах вытыкалася краса ўзораў беларускіх саматканаў; у беларускіх ганчарскіх вырабах адбівалася высокае вычуцьцё гармоніі лініяў і формы, здольнасьць асяганьня спосабамі тэхнічна найпрасьцейшымі красы найвышэйшай мастацкай якасьці; многа мастацкага смаку ўкладаў народ у вырабе розных гаспадарскіх прылад, у аздабляньне будынкаў і інш. Але сваю гаспадарскую веду, увесь свой філёзофічны сьветапагляд, усю сваю багатую народную літаратуру, песьні, казкі, пагаворкі, прыказкі і ўсё багацтва мовы, народ перахоўваў і перадаваў наступным пакаленьням вусна.

Так было ад найдаўнейшых часоў. Але тымчасам на сьвеце ішлі павольныя ды вялікія перамены. Ужо даўно паявілася пісьмо, а пазьней друк, друкаваная кніжка. Доўга тайна і мудрасьць пісаных знакоў была даступнай толькі невялікай колькасьці людзей, пера важна з багатых слаёў грамадзянства. Народ-жа доўга ў вялікай меры і далей жыў сваім жыцьцём, і далей яшчэ стагодзьдзямі тварыў і пашыраў свае культурныя і матар'яльныя вартасьці вусна

І толькі ў апошнія стагодзьдзі, калі з поступам тэхнікі друкаваная кніжка і пісьмо сталі больш даступнымі шырокім народным слаём, калі ўжо друкаванае слова, кніжка, газэта, аказаліся неабходнымі да нармальнага далейшага культурнага і гаспадарчага разьвіцьця кожнага народу, — за ведай і асьветай пацягнуліся рукі мільёнаў, клясаў найбяднейшых, найцямнейшых.

Стала ясным, што далей жыць толькі вуснымі пераказамі, вусным перадаваньнем народных здабыткаў культуры матар'яльнай і духовай, — ня можна. Гэтая дарога разьвіцьця цяпер ужо за павольная, за марудная. Народы, якія ёю далей ішлі-б, будуць асуджаныя на вечную цемру, няволю і ў канцы — смерць.

Ды зусім зразумела чаму. Вусна культурныя здабыткі і навіны, усякія палепшэньні і вынаходы перадаюцца і пашыраюцця вельмі паволі. Чалавек чалавеку можа расказаць толькі тое, што сам бачыў і рабіў, ды яшчэ троху таго, што яму расказаў бацька, дзед ці сусед. Кніжка-ж ня тое, што чалавек. Кніжка і газэта можа адразу гаварыць да мільёнаў і гаварыць аб усім, што толькі ёсьць на сьвеце, было ці нават будзе. Кніжка расказывае справы і здарэньні з-прад тысячаў і мільёнаў гадоў, кніжка перадае гісторыю і справы ня толькі аднэй нейкай вёскі ці ваколіцы, але жыцьцё многіх народаў і за час не аднаго, ці двох людзкіх пакаленьняў, а цягам цэлых тысячалецьцяў. Ад даўных часоў „сівой мінуўшчыны“, ад часоў „драмучых лясоў“ на зямлі, да сяньняшніх дзён, сяньняшняга сьвету, сьвету мільённых гарадоў, лесу фабрычных комінаў, сьвету казачных дзіваў і цудаў тэхнікі.

Кніжка таксама гавора пра гаспадарку, пра гаспадарскія навіны і паляпшэньні ў іншых культурных, далёкіх ад нас народаў.

Ды ня толькі пра даўнейшае і цяперашняе людзкае жыцьцё гавораць нам кніжкі, — гавораць яны і пра сонца, месяц, зоры; знойдзеце там пра дзіўныя і цікавыя рэчы далёкіх, заморскіх краін, пра нязнаных, у нас ня бачаных зьвяроў і расьлін гарачых старонак вечнага лета, ці халодных краін вечнай зімы і вечнага сьнегу. Скуль гэта ўсё пашло, скуль узялося.

Можна даведацца там, скуль і як прыходзяць да нас соль, газа, жалеза, баваўняная ці шаўковая хустка, звычайная голка ці сельская машына.

Адным словам у кніжках можна знайсьці найцікавейшыя казкі жыцьця, кніжкі адкрываюць перад вачыма і розумам казачны сьвет дзіваў прыроды і тэхнікі, тымбольш цікавы, што ня выдуманы, а праўдзівы.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Кніжка ня толькі вучыць ведаць і разумець, што робіцца далей валасьці, далей павету, але нават і тое, што адбываецца ў нас „пад носам“, а чаго мы часта самі ня можым зразумець, або разумеем фальшыва, — і тое нам *добрая* кніжка лепей пакажа, пазволіць лепей зразумець. *Добрая* кніжка вытлумачыць нам пружыны сучаснага жыцьця, прычыны яго радасьцяў і нягод, лад і склад жыцьця.

Ды навука і веда існуюць не для самой прыемнасьці веданьня і пазнаваньня. Пры помачы веды чалавек запрог сабе ў службу сілы прыроды, пры помачы навукі і веды чалавек збудаваў сабе аграмадныя будыніны, вялікія гарады, фабрыкі, зьмяніў бег рэкаў, марскія берагі, зрэзаў нетры зямлі. Пры помачы веды, цывілізацыі і культуры некаторыя народы змаглі панаваць над іншымі, куды большымі але менш асьвечанымі народамі, нялічныя грамадзкія клясы змаглі эксплёатаваць і панаваць над мільёнамі людзей мала асьвечаных і цёмных.

Значыцца асьвета і веда ня толькі прыемнасьць, здаваленьне для чалавечага духа.

***Асьвета і веда аружжа, аружжа вялікае, магутнае ў барацьбе чалавека з сіламі прыроды і ў барацьбе чалавека з чалавекам, у барацьбе народу за сваю долю, за свой быт, за свае правы пад сонцам.***

Гэта ведаюць іншыя, гэта мусім сабе добра запамятаваць і мы беларусы.

Цяпер, калі зямля апаясаная кругом сотнямі тысяч кілёмэтраў жалезных рэльс, калі над намі рэжуць прасторы нябёс, гудзяць сталёвыя маторы самалётаў, калі радыёвыя станцыі ўсіх старон сьвету б'юць ужо гоманам сваіх хваль пад стрэхі нашых вёсак, — цяпер ужо мала толькі стаяць з шырака разплюшчанымі вачыма і дзівіцца: „як гэта хітра! голас ляціць нават не па дроце“!.. Трэба ўжо *пазнаваць* усё, каб магчы ня толькі *дзівіцца*, але і *ведаць*, ***разумець***, а таксама — што вельмі важна — ***карыстацца ведай у жыцьцёвай барацьбе.***

Якія-ж дарогі вядуць да гэтага, якім спосабам да гэтага ісьці?

Кожнаму ясна, што каб магчы карыстацца з друкаванага слова, трэба перад усім умець чытаць Значыцца першай нашай задачай у асьветнай працы мусіць быць: навучыць наагул разумець кніжныя знакі, ***навучыць чытаць.*** Навука чытаньня, пазнаваньне друкаваных знакаў і ўменьне ўкладаць з іх словы і сказы, — гэта першыя неабходныя крокі на дарозе да асьветы. Толькі з гэтай ведай магчыма вясьці далейшую работу — даваць праз кніжкі самую веду, самую асьвету.

Як-жа-ж рабіць гэтыя *першыя* крокі?

Нармальна, першыя пачаткі, аснову асьветы і веды ў культурным сьвеце чалавек атрымлівае *ў сваей роднай школе.* Родная школа найлепей, найлягчэй і найскарэй дае дзіцяці асьвету. Толькі школа, у якой дзіцё першыя цяжкія крокі робіць у мове, якую чула ад калыскі, з якой зжылося, зраслося ад маленства, ў якой ужо да школьнай лаўкі пазнавала навакольны сьвет, — толькі такая школа найлепей і ўсебакова можа разьвіць прыродныя здольнасьці дзіцяці, толькі такая школа найскарэй выгадуе поўнавартаснага сяньняшняга чалавека-грамадзяніна.

Але нават існуючыя ў нас польскія школы сваей сеткай не абымаюць усіх дзяцей школьнага веку. Каля мільёна дзяцей у год астаецца ў Польшчы па-за школай, а з гэтага найбольшы працэнт акурат на нашых беларускіх землях. Ды і з тых, хто ходзіць у існуючыя школы, пазьней значны працэнт варочаецца да паўторнай няграматнасьці.

З гэтага ненармальнага палажэньня мусім шукаць хаця частковага выхаду, даючы сваім дзецям веду роднай граматы дома, *хатнім навучаньнем.* Калі мы ня можам мець сваей школы, дык *мусім стварыць школу ў кожнай беларускай хаце,* мусім стварыць столькі беларускіх хатніх школ, сколькі ёсьць беларускіх сем'яў з дзяцьмі ў школьным веку.

Гэта ў першую чаргу абавязак бацькоў. Але ня трэба забывацца, што ня кожны бацька, ня кожная беларуская матка патрапіць дома, пры кудзелі, выкладаць сваім дзеткам тайніцы друкаваных радкоў, — ня кожная, бо беларуская матка часта яшчэ сама няпісьменная...

Тут памагчы мусіць беларуская вясковая інтэлігенцыя, кожны той, хто ўжо так ці іначай навучыўся чытаць пабеларуску. І на ей, на сьведамай вясковай беларускай інтэлігенцыі, ляжыць маральны абавязак і маральная адказнасьць перад народам і гісторыяй, за тое, каб ня было беларускіх дзяцей, якія не навучыліся роднай граматы дзеля таго, што ня было каму іх вучыць гэтага.

Бяручыся вучыць дома, бяручыся даваць *першыя* пачаткі асьветы перад усім трэба раздабыць адпаведныя падручнікі-чытанкі. Ёсьць выданыя вельмі добрыя адумысловыя кніжкі-лемантары да хатняга навучаньня, укладзеныя С. Паўловічам, будуць гэта: 1. *Першыя зерняткі,* беларуская граматка да хатняга навучаньня (кірыліцай); 2. *Zasieuki* таксама для хатняга навучаньня, для тых, хто хоча вучыць пабеларуску лацініцай (добрая для беларусаў-каталікоў); 3. *Пішы самадзейна* падручнік да разьвіцьця навыку пісьма і чытаньня.

Падручнікі гэтыя для хатняга навучаньня неабходныя. Можна іх купіць ці выпісаць з кожнай беларускай кнігарні ў Вільні.

Вышэй пералічаныя чытанкі ўложаны так плянова і добра (пачынаюцца ад пазнаваньня паасобных літар, а канчаюцца даўжэйшымі чытаньнямі і вершамі), што хопіць паступова і акуратна перарабіць з вучнем гэтыя падручнікі, каб дзіцё ужо пазнала галоўныя асновы чытаньня і пісьма.

Да такой навукі найлепей ясна надаюцца доўгія асеньнія і зімовыя вечары, але добра для так важнай справы выкарыстоўваць і ўсякі вольны час іншых пораў году.

Калі ўжо дзіцё кончыць *„Першыя зернятки“* ці *„Zasieuki“*, тады

для паглыбленьня і замацаваньня здабытай навукі чытаньня, можна яшчэ перайсьці на цяжэйшыя чытанкі: адумысныя дзецкія кніжкі.

Калі дзіцё навучыцца чытаць на гэтых падручніках, тады можна будзе сабе сказаць, што першыя труднасьці на дарозе да здабываньня асьветы — навукі чытаньня — праламаныя. Астанецца тады справа другая, хоць ня менш важная — дагледзіць, каб навучыўшыся чытаць, дзеці, моладзь, не кідалі кніжкі ў кут і на гэтым канец, а каб гэтую ўмеласьць далей выкарыстоўвалі якнайшырэй.

Тут ужо трэба скіраваць нашага вучня да адпаведных кніжак, часапісаў і газэт. Справа гэтая ўжо належыць да т. зв. самаасьветы (самаадукацыі), або зашкольнай асьветы.

Так мусіць адбывацца хатняе навучаньне дзяцей роднай граматкі, першы канечны крок да роднай культуры і асьветы мас. Хай бацькі, якія ня могуць вучыць самі, вымагаюць ад кожнага бліжэйжага суседа ўмеючага чытаць пабеларуску, каб ён памог іх дзецям здабыць першыя крокі ў навуцы беларускага друкаванага слова. А абавязак кожнага граматнага беларуса, самому запрапанаваць сваю помач для бацькоў, у якіх ёсьць дзеці ў школьным веку.

Хай кожны выпаўніць гэты свой абавязак перад народам, дык скора ў Беларусі ня будзе дзяцей, якім было-б недаступнае роднае друкаванае слова — найлепшая, найпрасьцейшая дарога да асьветы і культуры ўсяго народу.

*А. Горны.*

---

# Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская песьня.

Даўно беларуская песьня зьвярнула на сябе ўвагу вялікіх кампазытараў сваею красою, сілаю пачуцьця, яснасьцю мэлёдыі і арыгінальнасьцю. Даўно яна выйшла ў сьвет у харавым і інструмэнтальным выкананьні, але да гэтага часу ня мела свайго баяна-саліста, які здолеў бы выдабыць усе пэрлы перажываньняў, настрояў, думак, радасьці ці смутку, захаваныя ў гэтых песьнях. Часта і многа спробаў рабілася ў гэтым кірунку. Але ня было ў іх роднай душы. Чужыя людзі, чужымі халоднымі рукамі прабавалі паказаць яе сьвету. І нічога ня выходзіла. Краса, душэўнасьць, далікатнасьць мэлёдыі, як ліст ад марозу, падала каля ног чужынца-сьпявака, або сьпявачкі, не трапляючы да сэрца тых, хто яе слухаў.

Але-ж народ, які стварыў хараство гэтае песьні, мусіў даць і свайго роднага баяна-песьняра.

Гэтым нашым баянам-песьняром, вышаўшым з нізоў народных, ёсьць слаўны артыст, саліст опэры, Міхал Забэйда-Суміцкі

Яго музычнае ўзгадаваньне пачалося ад калыскі, калі матка пяяла хлопчыку аб народнай долі. Яму знаёмы ўсе ўрачыстасьці народнага жыцьця, якім спадарожнічае цудоўная наша песьня. Ён сам напачатку выліваў свае настроі на гэтых урачыстасьцях, як вясковы скрыпач-музыка

Вёска Шэйпякі каля Ружаны, Косаўскага павету была першай школай народнага мастацтва для Забэйды-Суміцкага. Там і цяпер жыве матка артыста.

Ваенная хваля ў 1915 годзе змыла і выкінула з родных берагоў беларускую сялянскую масу, разам з якою вынясла і нашага артыста аж на Далёкі Ўсход. За гэты час, так званага бежанства, Забэйда-Суміцкі скончыў вучыцельскую сэмінарыю, вучыцельскі інстытут, а ў Харбіне — эканамічны аддзел праўнага факультэту пры мяйсцовым унівэрсытэце, працуючы адначасна, як вучыцель, у сярэдняй гандлёвай школе („коммерческое училище“).

Ад дзіцячых гадоў яго цягнула да сьпеву. Але грунтоўныя студыі яго над музыкай і сьпевам пачаліся толькі ў Харбіне, дзе адбываліся і першыя яго выступленьні, як артыста харбінскай опэры. У 1932 годзе ён выяжджае ў Італію у Мілан дасканаліць свой голас пад кіраўніцтвам слаўнага праф. сьпеву Фэрнанда Карпі. Тут дзякуючы сваім здольнасьцям Забэйда-Суміцкі выбіваецца на паверхню артыстычнага жыцьця — яго запрашаюць салістам у слаўную Міланскую опэру „La Scala“. Італьянская крытыка ў афіцыяльным органе Акадэміі сучаснае музыкі „Giornale deb arte“ раўняе Забэйду-Суміцкага з бязсмертным італьянскім тэнарам Т. Скіпай і слаўным расейскім сьпеваком Л. Собінавым.

Пасьля блізу чатырохгадовага пабыту ў Італіі ў 1935 годзе вярнуўся на Бацькаўшчыну, якой ня бачыў 20 гадоў Пасьля некалькіх канцэртных выступленьняў быў запрошаны салістам опэры ў Познань, дзе выступаў цэлы сэзон. Апошні час стала жыве ў Варшаве, выступае на сталічных сцэнах, у Польскім Радыё, выяжджае часта з канцэртамі на правінцыю і заграніцу. Пры чым на кожным канцэрце слаўнага артыста разам з ім выступае беларуская песьня, выступае ў поўным блеску і красе і карыстаецца калясальным пасьпехам побач з шэдэўрамі музыкі эўрапейскай.

Так на канцэрце ў Варшаўскай Консэрваторыі 27 лютага г. г. дзьве беларускія народныя песьні А Грэчанінава „Ляціць сарока“ і „Конь бяжыць, зямля дрыжыць“ зрабілі калясальнае ўражаньне на публіку. Артыст быў змушаны паўтарыць іх. 7 сакавіка артыст выступае ў Пінску, дзе публіка спатыкае і праваджае свайго земляка бурнымі авацыямі. На травень м-ц зноў вызначаны рад канцэртаў у тым ліку і ў Вільні.

Натуральна, гэтымі канцэртамі артыст робіць вялікую справу, папулярызуючы беларускую народную музыку. Але не адныя канцэрты спрычынаюцца да гэтага

Здабычы людзкай тэхнікі таксама ўжо будуць служыць нам і разносіць па сьвету беларускае слова і музыку. Нядаўна артыст напяяў на грамафонныя пліты дзесяць песень: А. Грэчанінава — „Ляціць сарока“, „Конь бяжыць“, „Ой рана куры запелі“ і „Шчука-рыба ў моры“; Туранкова — „Як памерла матулька“, „Рабіна“ і „Лявоніха“; Ст. Казуры — „Зялёны дубочак“ і „Чаму мне ня пець“ і Анцава — „А ў лесе, лесе“.

Гэтыя песьні, гэтыя пліты будуць мець сваю вартасьць наагул для музычнага ўзгадаваньня шырокай публікі, музычнае чуцьцё якой цяпер асабліва прыглушана і сапсута рознымі, так званымі, „шлягерамі“ кабарэтовае музыкі і песьні.

*Р. Ш.*

---



Вёска на Віленшчыне.

# Літаратурныя навіны.

### „З сялянскіх ніў“ — новы зборнік вершаў Міхася Васілька.

Міхась Васілёк ёсьць бясспрэчна выдатным беларускім песьняром і з буйным і глыбокім талентам, а ягоныя вершы з боку сваей мастацкай вышыні і вельмі шчырага і беспасярэдняга адмаляваньня сучаснага жыцьця беларускай вёскі, яе працы і змаганьня за лепшы лёс, зьяўляюцца вялікім здабыткам у нашай літаратуры. Нажаль да апошняга часу ня быў Васілёк належна ацэніваны беларускім чытачом, ня змог здабыць сабе ў грамадзянстве такога прызнаньня і зразуменьня, на якое сваімі творамі заслугоўваў. Прычынай гэтага была нястача асобных выданьняў лепшых і навейшых ягоных твораў. Першы зборнік Васілька „Шум баравы“ з 1929 г., які нядаўна адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі, быў прадуктам першых і нясьмелых яшчэ пробаў паэты, а ўсе навейшыя творы параскіданы былі па розных часапісах, або ляжалі ў рукапісах.

Дзеля гэтага новы, невялічкі зборнічак ягоных вершаў „З сялянскіх ніў“, які ў гэтым месяцы выйшаў з друку, адкрывае перад намі

Васілька першы раз ува ўсім яго творчым размаху і ў поўнай мастацкай дасьпеласьці. Творчасьць Васілька, як і ўсіх амаль беларускіх паэтаў, вырастае сваімі каранямі з беларускага сялянскага грунту, ахопліваючы і ярка адбіваючы ў сябе ўсе праявы жыцьця народу, яго матар'яльную галіту, цяжкую працу і вытрывалае змаганьне за лепшы лёс У маляваных, пукатых і рэалістычных абразох з сучаснага сялянскага жыцьця ўкладае паэта многа шчырасьці і цяпла, выказвае сваю арганічную пачуцьцёвую сувязь і зрадненьне з сярмяжным народам і вузкімі палосамі беларускіх палёў і прастораў.

У многіх вершах змог Васілёк асягнуць высокую мастацкую роўню і вырабіў вялікі характэрны і вартасны стыль, у якім выражае свае думкі і зьмест твораў. Гэтак прысвоіўшы сабе сучасную форму верша з яе свабоднай рытмікай і конструкцыяй, з сьмелай і арыгінальнай мэтафорыйнасьцю мовы і г. п, патрапіў ён захаваць вялікую прасьціню выражэньня. Дзякуючы гэтаму верш Васілька глыбака прамовіць і да найбольш інтэлігентнага чытача, маючага высокую літаратурную культуру, але таксама будзе ён поўнасьцю зразумелым і для селяніна. Такі спосаб артыстычнага выражэньня ёсьць вельмі характэрным у новым зборніку Васілька, што аж хочацца прывесьці адзін кароткі прыклад:

Малюнак бачыў я. Ня знаю, з радасьці ці з смутку сэрца зябілела:
Жняя малодка жала загончык з долю шырывёй..-
І быццам на паказ з разоркі да разоры шасьцёра іх сядзела,
А сёмы плакаў у калысцы пад мяжой.
Эх, падрастуць — ня хопіць баразёначкі адной!

Канчаючы гэты кароценькі агляд, трэба сьцьвердзіць, што Васілёк у новым зборніку паказаў сябе з найлепшага боку. Нягледзячы на некаторыя тэхнічныя заганы вершаў, на часта спатыканыя ў іх русыцызмы (якія мусіў-бы паправіць выдавец!). Зборнік „З сялянскіх ніў" сьведчыць аб вялікіх творчых здольнасьцях яго аўтара, аб правільным ідэолёгічным і мастацкім кірунку творчасьці, аб вялікай артыстычнай дасьпеласьці песьняра. Шырэйшыя кругі беларускага мястовага, а асабліва вясковага грамадзянства павінны набыць гэтую вартасную і прыгожа выданую кніжку, тымбольш, што каштуе яна ўсяго 50 грошаў.

*А. Р.*

## Польская прэса аб Максіму Танку.

Літаратурная творчасьць Максіма Танка, якая выказвае што раз магутнейшы рост і нязвычайна вялікія артыстычныя асягненьні, знаходзіць вялікі водгук ня толькі ў беларускай літаратурнай прэсе, але і ў польскай. Памінаючы ўсе дробныя зацемкі аб нашым маладым песьняры, зьвернем увагу на вялікі і фаховы артыкул аб творчасьці Танка, напісаны ведамым польскім літаратам Ю. Путрамантам п. н. „Mikrokosmos Literacki", а зьмешчаны ў варшаўскім літаратурнаграмадзкім тыднёвіку „Pion" (орган Акадэміі Польскай Літаратуры) з дня 15.IV.37 г.

Ю. Путрамант, які ўжо ў мінулым годзе пераложыў некаторыя вершы Танка і іншых беларускіх паэтаў на польскую мову, патрапіў глыбака ўнікнуць у творчасьць нашага паэты і належна зразумець і ацаніць яе ўзапраўды незраўнаныя літаратурныя вартасьці. Уважае

ён, што Танк сваей багатай творчасьцю распачаў новы кірунак ува ўсей беларускай літаратуры, падаючы ей зусім новае і арыгінальнае аблічча і падносячы яе на агульнаэўропэйскую вышыню. Зусім правільна зацеміў польскі крытык, што Танк так канкрэтна і беспасярэдна, з так вялікай праўдзівасьцю і рэалізмам малюе сучаснае жыцьцё беларускага народу з яго неадлучным горам і бядою, так ярка і пуката передае ўсе свае абразы і сцэны, як не рабіў яшчэ гэтага ніводзін беларускі паэта.

Таксама трапна падчыркнуў Ю. Путрамант, што Танк першы ў беларускай літаратуры патрапіў глыбака ўнікнуць ў стыхію беларускае мовы і тварыць з яе высокія мастацкія вартасьці. Паколькі для дасюляшніх нашых паэтаў беларуская мова была перадусім толькі адным із паэтыцкіх сродкаў дзеля выражэньня думкі ці зьместу твору, патолькі ў Танка мова, адпаведна зарганізаваная з гледзішча мастацкага, зьяўляецца артыстычнай вартасьцю самой у сабе. У сувязі з гэтым Танк прадстаўляе зусім новы мамэнт у беларускай літаратуры, *„Мамэнт адкрыцьця паэтыцкага слова“*. Дзеля гэтага для польскага чытача, паводле Путрамэнта, „беларускі язык з выступленьнем Танка зьяўляецца вартым пазнаньня ня толькі для языковедаў, ня толькі для дзеячоў, маючых працаваць сярод беларусаў, але такжа і для тых, што шукаюць у мове паэтыцкіх захапленьняў“.

Бяручы пад увагу ўсё вышэйсказанае, ды і наагул надзвычайна высокую мастацкую роўню песьняра, крытык сьцьвярджае, што Танк зьяўляецца першым беларускім паэтам, які ўнёс вялікія артыстычныя вартасьці ў сусьветную літаратуру і гэтым самым заваяваў сабе пачэснае месца сярод перадавых эўрапэйскіх паэтаў.

Вельмі прыхільна адызваўся аб Танку польскі варшаўскі часапіс „Głos Powszechny“ з 21.III б. г. у артыкуле I. П. п. н, „Współczesna literatura białoruska“. Спыняючыся каротка над паасобнымі нашымі паэтамі, аўтар за найбольш цікавага і ўталентаванага ўважае Максіма Танка, прызнае яго творам высокую мастацкую якасьць, а аб ягонай паэме „Нарач“ між іншым кажа: „Танк апошнім часам закончыў вялікую паэму „Нарач“, каторая з гледзішча сучаснай эпіцкасьці ня мае сабе роўных ня толькі ў беларускай літаратуры, але і ў польскай“.

---

МАКСІМ ТАНК

* * *

Як задрэмлюць хлопцы ў полі,
на начлезе, — прыхадзі! —
Згубяць коні ў вадапою,
раскаваны маладзік.

Не бяры з сабой караляў, —
будзе шмат на небе іх;
не бяры шаўковай хусткі
у сасоньніках густых.

Не кажы сваім дзяўчатам,
дзе ты вечарам ідзеш,
нат' калі у косах мяту
ці брусьнічнік прынясеш...

І каралі і дзяўчаты
нат' і хустачка ў начы
прашкаджалі-б толькі слухаць,
як гамоняць туркачы,

і глядзець на раскаваны
ў сіней тоні маладзік. .
Як задрэмлюць хлопцы рана,
на начлезе, — прыхадзі!

С. ГАРОТНЫ

# Мая песьня.

Я ня буду пяяць,
Як другія пяюць,
Так плакуча мінорнымі тонамі.

Ў сваёй песьні жывой
Хачу чулай душой
Шчасьцьця, радасьці пець пераззвонамі!

Хай нясецца мой сьпеў,
Як вясьняны павеў,
Над радзімай старонкаю шэраю,

Гоніць смутак - бяду,
Разсявае жуду,
Людзям душу хай песьціць збалелую.

Я за песьню сваю,
Што ад сэрца пяю,
Нагароды ня прагну ніякае.

Калі збудзіць каму
Яна душу ад сну,
Будзе платаю мне і падзякаю.

Калі-ж знойдзе спагад
Сярод шэрых там хат
Й людзям душу ажывіць надзеяю,

Я з натхнёнаў душой
Зальюсь песьняй другой
З новай сілай, пачуцьцём і вераю!

---

# Прыклад варты насьледаваньня.

Перад намі цікавае пісьмо ад моладзі вёскі К., Горадзенскага павету: „Ужо даўно мы ня маем сваіх арганізацыяў — пішуць маладыя аўтары — дзеля гэтага і народ наш жыве ў цемры. Але шмат дзе, таксама і ў нас моладзь пастанавіла саматужна здабываць і пашыраць гэтую сьведамасьць і асьвету ў роднай мове. З гэтай мэтаю мы выпісалі сабе буквары: „Першыя зерняткі“ і „Пішы самадзейна“, якія нам вельмі спадабаліся і за якія мы шчыра дзякуем паважанаму гр-ну С. Паўловічу. Трэба сказаць, што гэтую працу самаадукацыі мы кончылі з добрым вынікам. Пры гэтым просім паважанага аўтара даць нам параду ў далейшай працы, якія нам патрэбны кніжкі, а як няма іх, то напісаць і выдаць далейшыя беларускія граматкі. Яшчэ мы вельмі прасілі-б, каб Вы, паважаны Аўтар, прыехалі да нас і пабачылі, як мы вучымся, пры тым яшчэ раз просім Вас прыехаць. Мы будзем вясьці сваю працу нават вясною і ўсімі магчымымі спосабамі“.

Гэты вельмі яскравы і характэрны для нашых часоў прыклад павінен *ускалыхнуць сумленьне нашае студэнцкае моладзі, як у Вільні тык і ў Варшаве*, якая мусіць задумацца і то вельмі сур'езна над лёсам сваіх меншых братоў на вёсцы. Падручнікі гр-на Паўловіча маюць на мэце пераважна моладзь школьнага веку. Па за гэтымі падручнікамі для вёскі няма популярных кніг для самаадукацыі. Прыпусьцім для прыкладу, што ў кожнай хаце нават на кожнай печы была свая родная школа і моладзь вясковая і дзеці прасілібізавалі кніжкі С. Паўловіча, навучыліся чытаць і пісаць. А далей што? Чым мы можам запоўніць недахопы сялянскай лектуры для самаадукацыі? Вось тут на арэну павінна выступіць наша студэнцкая моладзь, тыя магістры і дахтары, якія, здабыўшы дыплёмы, на гэтым чамусьці заспакоіліся. Прышла пара паказаць свае здольнасьці і падзяліцца сваей асьветай з тымі, каго такое шчасьце абмінула. У працягу лета мусіма апрацаваць лекцыі для завочных курсаў. Гісторыя, літаратура, географія, біолёгія, палітычная эканомія, матэматыка, фізыка — вось прадметы, на якія чакае маладая беларуская вёска.

У працягу траўня месяца паважаных аўтараў просім паведаміць рэдакцыю „Б. Л.“, хто, за які час і які курс можа і хоча папулярна апрацаваць для завочных курсаў, якія з восені павінны будуць распачаць існуючыя яшчэ *беларускія навуковыя, ці то грамадзкія арганізацыі*; калі гэтага ня здолеюць зрабіць арганізацыі, то *павінна будзе гэтым заняцца беларуская прэса*. Справа такіх курсаў — гэта палючая патрэба дня, гэта справа нацыянальнага гонару ўсей беларуская інтэлігэнцыі — старэйшай і малодшай — усіх беларускіх арганізацыяў і беларускай прэсы. Тым балей, што сама вёска, аб якой мы навучыліся гаварыць многа прыгожых слоў, наводзіць нас на гэта, падказвае, што трэба рабіць.

# Наша хроніка.

⁂ СЯЛЯНЕ КУЗЬНІЦКАГА праваслаўнага прыходу на Гарадзеншчыне за пасярэдніцтвам праваслаўнага Мітрапаліта Дзіонісія зьвярнуліся да Міністэрства Асьветы, каб у гэтым прыходзе ў школах рэлігія выкладалася ў беларускай і ц.-славянскай мовах заместа польскай. Ад праваслаўнай іерархіі сяляне дамагаюцца, каб яна не дапушчала ў царкве замены літургічнага ц.-славянскага языка на польскі.

30.XII.36 г. Мітраполія паведаміла сялян, што іхняя просьба скіравана ў Міністэрства з прыхільным одзывам за № 3090. 23 сакавіка сяляне зноў паслалі Мітрапаліту просьбу даць адказ на гэты самы 3090 нумар.

Калі пападзе ў вёску беларуская газэта, усе ахвотна чытаюць і адзін другому перадаюць.

„Спадзяемся на Бога і на сябе ўтрымацца ў роднай навуцы“! — Так пішуць старыкі-сяляне.

⁂ МОЛАДЗЬ в. НОВАЯ ВЕСЬ каля Нягневіч, Наваградзкага павету, шукаючы веды і культурнай працы арганізавала „Koło młodej wsi“. Зладзілі адно беларускае прадстаўленьне з дэклямацыяй беларускіх вершаў. Аднак улады гэтай арганізацыі загадалі ставіць мяшаныя прад-

стаўленьні. Калі моладзь пачала дамагацца вячэрніх курсаў у беларускай мове — нават былі свае лектары, — то зноў тыя самыя ўлады спынілі працу моладзі, матывуючы тым, што лектары ня маюць фаховай пэдагагічнай падгатоўкі. Хацелі зладзіць вечар прысьвечаны творчасьці Якуба Коласа з нагоды 30-ці летняга юбілею і калі, маючы на гэта дазвол павятовага Старасты і школьнага інспэктара на карыстаньне саляй у мяйсцовай школе, зьвярнуліся да кіраўніка школы з просьбай, каб ён сам яшчэ паразумеўся тэлефонічна з іспэктарам, то ён на гэта толькі адказаў: — „Czego pan, czepi się do mnie"! Натуральна, што з такім вучыцялем моладзь працаваць ня хоча.

„Związek wojewódzki kół młodej wsi" апошнім часам працу гэтага кола зусім спыніў (завесіў).

⁂ НОВЫЯ ПЕСЬНІ. Абсальвэнт пэдагагічных клясаў Варшаўскае консэрваторы Аўгень Евец згарманізаваў на мяшаны хор дзьве беларускія песьні: „Ой я п'яна, п'яненька" і „Там на ролі, на ральлі, там хадзілі жураўлі". Хаця гэта і першая спроба маладога аўтара, аднак выяўляе вялікія кампазытарскія яго здольнасьці: па першае ў гэтых працах не тушуецца народны характар песьні, а ўвыпукляецца перадачай мэлёдыйнай тэмы паасобным голасам ў залежнасьці ад вымогаў тэксту, па другое малады кампазытар свабодна і умела карыстаецца усімі формамі гармоніі ў рамках галасавых магчымасьцяў хору, што робіць песьні нязвычайна цікавымі, як для слухача, так і для тых, хто іх выконвае. Новыя песьні яшчэ ў гэтым вясеньнім сэзоне будуць пастаўлены ў канцэртнай праграме беларускага хору Р. Шырмы.

Маладому пачынаючаму кампазытару выражаем шчырае пажаданьне плоднай працы на сваім музычным шляху.

⁂ БЕЛАРУСКІ КАНЦЕРТ. Беларускі хор Р. Шырмы 6 траўня прымае удзел ў канцэрце, ладжаным Управай бібліятэкі ім. Врублеўскіх у Вільні для польскага грамадзянства.

⁂ ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР ТАНКА СЯРОД ПОЛЬСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ Ў ВІЛЬНІ. У нядзелю 18.IV б. г. адбыўся літаратурны вечар, прысьвечаны творчасьці Максіма Танка, які быў ладжаны некаторымі кругамі польскай інтэлігенцыі ў Вільні ў памешканьні адвоката Браніслава Крыжаноўскага. З пасярод запрошаных гасьцей найбольш было з судовых і адвокацкіх сфэраў, а так-жа быў прысутны генерал Люцыян Жэлігоўскі, які глыбака зацікавіўся творамі маладога беларускага паэты і прыймаў чынны удзел у дыскусыі. На вечары Танк спачатку прачытаў некаторыя найбольш характэрныя вершы: Машары, М. Васілька, Н. Тарасішкі, Н. Арсеньневай і Хв Ільяшевіча, а потым чытаў фрагмэнты із сваей паэмы „Нарач", паэмку „Песьня кулікоў" і цэлы рад дробных лірычных вершаў. Усе прысутныя ў працягу двухгадзіннага чытаньня з напружанай увагай і глыбокім захапленьнем сачылі за кожным высокамастацкім і мэлёдыйным словам паэты, а потым у дыскусыі і прыватных гутарках дзяліліся сваімі ўражаньнямі. Напаследак адвакат Б. Крыжаноўскі ад імя прысутных падзякаваў Танку за ягонае выступленьне, зазначаючы, што польскае грамадзянства мела магчымасьць вітаць у сябе узапраўднага вялікага песьняра.

⁂ ВЫЙШАЎ З ДРУКУ і прадаецца зборнік выбранай паэзіі Міхася Васілька „З сялянскіх ніў“. Як па свайму зьместу так і па вонкаваму выгляду кніжка гэтая вельмі цікавая і эстэтычна выданая на добрай паперы з патрэтам аўтара. Мае 32 старонкі друку і прыгожую вокладку. Каштуе толькі 50 грошаў. Перасылка адной кніжкі 15 гр. Выпісваючы адразу ня менш 5 кніжак за перасылку не плаціцца. Заказы можна адрасаваць праз рэдакцыю „Б. Л-су“.

⁂ АКРУЖНЫ СУД у Беластоку падаў да публічнага ведама ў органе польскай коопэрацыі „Spólnota pracy“ № 7 з дня 1.IV.37 году аб зарэгістраваньні 5 лютага г. г. беларускага коопэратыву пад назовам „Аб'яднаньне Працаўнікоў Беларускага Тэатру „Полымя“, Коопэратыў Працы з адказнасьцю паямі“. Статут коопэратыва мае на мэце даваць заробак сваім сябрам у коопэратыўным аб'яднаньні тэатральных працаўнікоў, пашырэньне тэатральнае культуры ў беларускіх асяродзішчах і фаховае дасканаленьне сваіх сябраў; вядзеньне ўсялякіх тэатральных прадпрыемстваў; арэндаваньне, набываньне і будова нярухомасьці, вядзеньне коопэратыўнаўзгадаваўчай дзейнасьці і прапаганда сцэны і беларускага тэатру. Новая беларуская коопэратыўная арганізацыя распачала працу над арганізаваньнем струннае аркестры, хору і драматычнае трупы.

⁂ БЕЛАСТОЦКАЯ ПРЭСА падае, што Старшыня Управы Т-ва „Полымя“ грам-ка Ганна Абуковіч пакарана штрафам 200 зл. за сарганізаваньне Таварыства Працаўнікоў Беларускага Тэатру „Полымя“ без адпаведнага паведамленьня адміністрацыйных уладаў. („Dziennik Białostocki“ № 107 з дня 19.IV.37 г.).

З тых-жа прычын Беластоцкі Гарадзкі Стараста не даў дазволу на канцэрт, які Т-ва Працаўнікоў Беларускага Тэатру „Полымя“ мелася наладзіць у Беластоку ў салі тэатру „Palace“ 4 мая б. г

⁂ ПРЫСЫЛАЦЬ АХВЯРЫ для моладзі мы прасілі ў папярэднім нумары „Б. Л-су“. Да гэтага часу яшчэ мала хто адгукнуўся. Між тым у Віленскім Унівэрсытэце некаторыя студэнты ўжо скрэсьлены з ліку слухачоў з тае прычыны, што не заплацілі за навуку.

Дапамога патрэбна канечне і то скорая!

⁂ „ПЕРШЫЯ ЗЕРНЯТКІ“ — буквар С. Паўловіча можна набываць праз усе кнігарні за 50 гр.; „Пішы самадзейна“ — таго-ж аўтара — кніжка для самастойнага пісьма і чытаньня каштуе 1 зл. Выпісваючым адразу вялікшую колькасьць кніг даецца значная скідка.

⁂ НОВЫ БЕЛАРУСКІ ЖУРНАЛ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ „СНАПОК“. Пачынаючы з 1 траўня 1937 г. у Варшаве пры газэце „Слово“, якая выдаецца Праваслаўнай Мітраполіяй, будзе друкавацца ў беларускай мове, як дадатак да газэты, месячнік „Снапок“ — царкоўна і культурна-асьветны журнал для дзяцей з ілюстрацыямі (16 старонак) па наступнай праграме: царкоўны аддзел, літаратурны аддзел, (апавяданьні, вершы, народныя казкі і пад.), з прыроды, па роднаму краю, з сусьвету, тэхніка, культура, гігіена, усячына, газэта малых чытачоў.

Падпіска прыймаецца ў рэдакцыі „Слова“ — Варшава (4), вул. Парыска 27. Падпісная плата: над год — 1 зл., на $1/_2$ — 50 гр. з перасылкай. Цана асобнага нумару — 10 гр. з перасылкай. Усе нумары „Снапка“,

па меры выхаду, можна будзе набываць і ў Вільні ў беларускай кнігарні „Пагоня“ — вул Завальная № 1 і іншых.

У справах рэдакцыйнага характару зварочвацца да гр. Сяргея Паўловіча па адрасу: Вільня, вул. Папоўская д. 9, кв. 4. На адказ далучаць значкі паштовыя. На адрас гр. С. Паўловіча прысылаць усе карэспандэнцыі і іншыя матар'ялы.

# Адказы рэдакцыі.

**Міхась Падберэскі.** Апавяданьне „Недапетая песьня“ мае свае артыстычныя вартасьці ў мове, у трафных сялянскіх параўнаньнях, але і ня меньшыя мае заганы з боку кампазыцыі. У кароткім апавяданьні аўтар сіліцца замкнуць найбагацейшы кавалак жыцьця свайго героя з малых гадоў аж да парабка Ледзь не ляціць бегом каля сьмерці трох асоб: бацькі, маткі, дзеда, толькі кідаючы штрыхі (нат падобныя паміж сабой), каб на канцы затрымацца на „перапетай песьні“ — на нешчасьлівым каханьні, не даючы ні аднаго закончанага вобразу. Мейсцамі пераходныя „зьвёны“, якія вяжуць паасобныя сцэны апавяданьня пераважаюць вобразы, на якіх будуе аўтар апавяданьне. Паміма недахопаў відаць што аўтар цесна зросься з сялянскім жыцьцём, добра яго ведае і умее перадаць яго, мейсцамі даючы глыбокія псыхалягічныя абразы, з якіх веець сырой прапоянай потам зямлёй і вёскай — мастацкім рэалізмам.

**Прамень, Струмень, Граніт** Парушаная праз вас справа (Праменем) ня можа быць падана пад дыскусію на старонках Б Л. У часы, калі кожны сьведамы беларус становіцца ў рады працоўнікоў на культурна асьветнай ніве—ня можа быць мейсца на асабістыя непаразуменьні. Вершы апошнія шмат лепшыя. Працуйце далей, больш чытайце.

**У. Гуль.** Пытаньні, парушаныя у паэме „Аркадзь“, важныя і актуальныя, але яны не знайшлі свайго пастаяннага адбіцьця і дзеля таго робяць уражаньне зрыфмаванага філёзофічнага развязаньня на тэму: аб несправядлівасьці соцыяльнай у жыцьці і аб адносінах да гэтага людзей, якія тольні думаюць аб сабе (жабрак) і чалавека, які усё бачэ і ня можа з гэтым пагадзіцца, шукае выхаду, і нават знаходзіць яго не ў пасыўнасьці а ў змаганьні. (Аркадзь). Будова паэмы прыпамінае старыя трагэдыі (замест хору выступае—гавора голас). За шмат развažаньняў над Міцкевічаўскім цярпеньнем „за мільёны“. Мова вельмі сухая, за мала вобразнасьці, народнасьці!... Дробныя вершы пастараемся выкарыстаць.

**Ан. Іверс** Чакаем на наступныя матэрыялы

**Раса.** Верш „Таму хто верыць“ яшчэ не надаецца да друку, апрача цэнзуральных „дадатніх“ бакоў і заганаў з боку формы, за шмат у ім, крыві, цярпеньняў і іншых страшных рэчаў. Вам лепш удаюцца меньшыя творы. Што да перакладаў з Гарацыя дык пакуль што не радзілі-б рабіць.

**Я. Зорка.** З вашых твораў рэдакцыя нічога не скарыстае, бо вы не падалі ў сваім пісьме ні адрасу, ні свайго праўдзівага прозьвішча. Аднаго вашага псэўдоніму для рэдакцыі мала.

## А У ЛЕСЕ, ЛЕСЕ.

*(Валачобная).*

Аранж А. НІКОЛЬСКАГА.

Allegro.

f

А у ле-се, ле-се ды на ве-ра-се. Вяс-на

piu f




па-а-бе-дай-ма. Вяс-на крас-на на ўвесь сьвет

А я па а-бе-дзе ска-жу та-бе дзі-ва. Вяс-на

*marc.*

крас-на на ўвесь сьвет! Ска-жу та-бе дзі--ва

*Meno mosso.* *rit.*

*ff*

най-дзіў-ней-ша-е. Вяс-на крас-на на ўвесь сьвет!

Рэдактар-Выдавец: Ф СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.